№ 62. 15 верэсьня 1916 г. Цэна 5 фэн.

# ГОМАН

БЕЛАРУСКАЯ ВІЛЕНСКАЯ ЧАСОПІСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У ТЫДЗЕНЬ: У АЎТОРКІ І ПЯТНІЦЫ

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Адрэс рэдакції: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыції: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

## Грэцкі корпус паддауся немцам.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Калі нямецка-боўгарскае войско с прычыны наступленьня Сэррайля было прымушэно дзеля контратакі увайсьці у Грэцкую Македонію, з-заду за левым боўгарскім крылом, дайшоўшым да рэкі Струмы, стаяў бязчынна грэцкі чацьвёрты корпус у трох местох: Сэрэсе, Драме і Кавале. Крокі саюзьнікоў мелі мэту перэцягнуць на свой бок гэтае грэцкае войско, або прыгатаваць яму гэткую самую долю, як згвалтаваным часьцям 11-ай грэцкай дывізії ў Салоніках. Вольные зносіны з Афінамі былі прэрваны. Саюзьнікі сьведома недавалі яму знасіцца з грэцкімі ўласьцямі ў Бацькаўшчыне. Генэрал, камандуючый 4-тым грэцкім корпусам у Кавале, спаўняючы волю свайго глаўнаго начальніка і законнаго ураду быць нэутральным, пад грозьбай голаду і хвароб прызнаў сябе прымушэным паступаць незалежна. 12 верэсьня ён папрасіў нямецкую глаўную каманду абараніць яго войско, вернае каралю і ураду, ад гвалту саюзьнікоў і даць баспечнае мейсцо і страву. Гэта просьба будзе споўнена. Каб папярэдзіць якоебы то ні было нарушэньне нэутральнасьці, с камандуючым генэралам зроблена умова, што грэцкае войско з аружжэм і амуніціей, як нэутральнае, будзе перавезено на жыцьцё ў Нямеччыну. Яно тамака будзе карыстаць з гасьціны датуль, пакуль яго Бацькаўшчыны не пакінуць уваравўшыеся саюзьнікі.

### 14 верэсьня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:*

У бітве пры Сомме—з абодвых бакоў надта сільны артылерыйскі агонь.

Новые сільные атакі ворагоў між Жэнші і Соммай і ў некольхіх мейсцох на палудні ад рэкі крывава адбіты. У контратаках адваёвана часць тэрыторыі. Узяты палонные і дабыча.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:*

На права ад Маасу развіліся пешые бітвы, момэнтамі даходзіўшые вялікаго напружэньня, на адрэску Тіомон—лес Шапітр і на заходзі ад яру Сувіль.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:*

Палажэньне без перамен.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:*

У Карпатах неўдалася спроба расейцоў штурмаваць Капуль. На заходзі ад Капуля бітва ешчэ трывае.

У Семіградзії годных увагі прыпадкоў не было.

**Балканскі тэатр:**

*Армейская група генэрала фэльдмаршалка Макензэна:*

У Добруджы ў удачных бітвах нямецкае, боўгарскае і турэцкае войскі наступаюць далей.

**Македонскі фронт:**

Баевая работа узмацавалася наабапол возера Острова, на фронці Моглены і на ўсходзі ад Вардару.

На поўначы ад Цыганскай планіны, а такжэ пры Кукуруз—Ковілі адбіты новые сільные атакі ворагоў.

**Кавала занята боўгарскім войскам.**

Людэндорфф.

## 3 апошніх дзён.

—s—

**Нямецкіе апавешчэньня.**

**12.IX. Заходні тэатр:**

Фронт ген.-фэльдм. Рупрэхта Баварскаго: На-абапол Соммы, наагул, атакі ворагоў недапушчэны зашчытным агнём. Вёска Жэнші ўчора раніцай папала ў рукі ворагоў. Артылерыйская бітва трывае заядла.

**Усходні тэатр:**

Фронт Леопольда Баварскаго: На поўначы ад Старо-Чэрэвішча расейская атака вялікімі массамі зломлена с цяжкімі стратамі перад нашымі загарадзямі.

Фронт эрц-гэрцога Кароля: У Карпатах, каля Бабы Людовай, Чымброславы і Капуля адбіты атакі ворагоў. Пры Чымброславе контратакай узяты 170 палонных.

**Балканскі тэатр:**

Нямецка-боўгарскіе сілы пад камандай фэльдмаршалка Макэнзэна далей наступаюць у Добруджы.

**13.IX. Заходні тэатр:**

Фронт Рупрэхта Баварскаго: На поўначы ад Соммы бітва ізноў ідзе поўным ходам. Між Комбль і Соммай нашае войско вядзе цяжкую бітву. Французы ўварваліся ў Бухавэн. Артылерыйскіе бітвы на-абапол рэкі трываюць з вялікай заядласьцю.

На фронці нямецкаго насьледніка францускіе атакі на адрэзку Тіомон і ў яры Сувіль крывава адбіты.

**Усходні тэатр:**

На фронці Леопольда Баварскаго—без перамен.

На фронці эрц-гэрцога Кароля, на адрэзку ад Смотрыча да Залатой Быстрыцы, массовые атакі расейцоў адкінуты нашым войскам с самымі цяжкімі стратамі.

У Семіградзії нямецкае войско на адрэзку каля Гэрманштадту і Гэціма спаткалося з румынамі.

**Балканскі тэатр:**

Ў Добруджы рух адбываецца паводлуг намечэнаго пляну.

Нямецкіе лятучые эскадры зрабілі налёт на Констанцу і расейскіе марскіе сілы. На адным броненосцы, падводнай лодцы і некольхіх мінаносцах відаць было бязспорна зробленые шкоды. Усе лятуны вярнуліся.

12.IX некольхі нашых лятучых эскадр атакавалі марскіе сілы ў Рыскай затоцы. Адзін мінаносец ворагоў быў зара затоплен, другі—папсаваны. Усе лятуны вярнуліся.

---

**Аустрыяцкіе апавешчэньня.**

ВЕНА. 11.IX. **Усходні тэатр:**

На румынскім фронці—наагул без перамен.

На фронці эрц-гэрцога Кароля—сільные, але неудачные атакі ворагоў каля Быстрыцы і Рафаловкі.

На фронці Леопольда Баварскаго на ніжнім Стоходзі зламаліся новые сільные атакі ворагоў.

**Італьянскі тэатр:**

У даліне Эчы і Астаха, на адрэзку Монтэ-Спіль—Монтэ Тэсто адбіты штурмы батальёноў ворагоў. Пры Монтэ Пасубіо ў часі удачнай контратакі узяты 68 палонных.

ВЕНА. 13 IX. **Усходні тэатр:**

На румынскім фронці—без ніякіх перамен.

На фронці эрц-гэрцога Кароля расейскіе массовые штурмы між Смотрычэм і Залатой Быстрыцай зламаліся з надта вялікімі стратамі і адвагу абаронцаў.

На фронці Леопольда Баварскаго—без перамен.

**Палудзенна-усходні тэатр:**

Перастрэлкі.

**Вайна на паветры.**

Лятучые эскадры удачна абкідалі бомбамі Лервіньяно і Вэнэцію. Відаць былі чысленые удачные ўзрывы і пажары. Усе лятуны вярнуліся.

---

**Боўгарскіе апавешчэньня.**

СОФІЯ. Число ўзятых у Тутракане палонных узрасло да 450 афіцэроў і больш за 22,000 нераненых салдатоў. Нашы ваенные патрулі пры Арабабіляры, ідучы на Сілістрыю, знайшлі 4 цяжкіе 15-цэнтымэтровые гарматы, пакінутые ворагамі.

---

Гл. Тэлеграмы на 4 страніцы.



† Мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі.

## † Андрэй Шэптыцкі.

Тэлеграф прынёс нам кароткую вестку: ў Расеі, ў Курску, памёр уніяцкі мітрапаліт гр. Андрэй Шэптыцкі, катораго маскалі вывезьлі гвалтам з Львова і дзержалі, як палоннага.

Вестка гэта вызывае глыбокі, шчыры жаль у сэрцах усіх, каму было вядома імя мітрапаліта Шэптыцкаго. Яго сьмерць — самы цяжкі удар як для украінскаго народу, так і для справы касьцельнай еднасьці, для каторай гэтак многа зрабіў гэты галава уніяцкай цэрквы

Мы, беларусы, дзелім горэ братоў нашых украінцоў ня толькі затым, што утрата гэтаго праўдзіваго, шчыраго сына украінскаго народу пакіне па сабе глыбокі сьлед на ўсей украінскай культурна-нацыональнай рабоці, так цесна за апошніе дзесяткі гадоў звязанай з імем мітрапаліта Шэптыцкаго: Андрэй Шэптыцкі і сам па сабе быў вельмі блізкі беларускаму народу.

Занімаючы катэдру львоўскаго мітрапаліта, Шэптыцкі гэтым самым станавіўся мітрапалітам і для беларускіх зямель: Рым ніколі не прызнаваў і не прызнае «навароту» нашых уніятоў на праваслаўную веру, бо «наварот» гэты адбыўся проці волі народу, адбыўся пад прынукай, і за старую веру бацькоў нашых пралілося багата крыві беларускай... Вось, мітрапаліт Шэптыцкі аб гэтым ніколі не забываўся, і найбольш гарачым жаданьнем яго было аднаўленьне еднасьці веры ў Беларусі. Многа працаваў дзеля гэтаго, нават сам патайна прыежджаў у наш Край, адведаў Вільню, Мінск і шмат якіе беларускіе вёскі, быў у Пецярбурзі і Маскве. Але і паміма свaей ідэі мітрапаліт шчыра спагадаў справе адраджэньня беларускаго народу, справедліва ўважаючы, што духавенство перш за ўсіх павінно памагчы нэроду выйсьці на вольную дарогу самабытнаго жыцьця. І хоць крокі, зробленые дзеля Уніі, не сулілі удачы, хаця ворагі яе пастараліся данясьці расейскаму ураду аб падарожы гр. Шэптыцкаго ў Расею і папсаваць яго работу,—ўсё-ж такі мітрапаліт, чым дуж, стараўся памагаць беларусам, друкуючы у Львові беларускіе кніжкі, аткрыўшы беларускі аддзел у уфундованым імжэ украінскім нацыональным музэі, паддзержываючы беларускіх эмігрантоў, каторые ад прасьледаваньня царскаго правіцельства былі прымушэны ўцякаць за граніцу.

Становішчэ, якое гэты „некарованы кароль Украіны“ занімаў у украінскім нацыональным руху, прыхільнасць яго да беларускай справы і пляны шырэньня Уніі ў межах Расеі,—ўсё гэта вызвало ў расейскіх урадовых кругах дзікую ненавісць да мітрапаліта. І з гэтай прычыны маскалі, ламаючы ўсе людзкіе і Боскіе законы, вывезьлі яго, як ваеннапалоннаго, з Львова ў Расею. Цяжкі быў для мітрапаліта Шэптыцкаго блізка двохгадовы палон: гэта было праўдзівае мучэніцтво. Хвораго, змучэнаго перажытымі нешчасьцямі свайго народу і Краю, яго адрэзалі ад усяго сьвету, аддзялілі ад блізкіх людзей. Яму забаранілі нават хадзіць у цэркву, забаранілі маліцца. Не давалі ступіць кроку без ахраны паліцэйскіх. Не дапускалі да яго ні пісем, ні газэт, не пазвалялі самому пісаць. У атмосфэры ненавісьці царавых слуг праводзіў мітрапаліт свае апошніе дні. Дарма аўстрыяцкі урад суліў выпусьціць некалькіх важнейшых расейскіх палонных у замену за Шэптыцкаго. Дарма Папеж пісаў да цара, просячы вярнуць волю мітрапаліту...

Цяжкая няволя і моральные мукі да канца зламалі сілы і здароўе мітрапаліта. І ён зышоў са сьвету, як ахвяра маскоўскай ненавісьці, як мучэнік за волю Украіны і за справу еднасьці веры братніх народоў.

## Сіла наша—у нас самых.

Хто сам сябе не шануе, таго ніхто не ўшануе!—кажэ старая народная прыказка. І ў ей—вельмі многа праўды: гэта мы спазналі на сабе...

Ажно дзіўна сказаць, што беларускі народ, каторы мае 9 мільёноў сыноў,—значыць, больш, чым Румынія або Боўгарыя, каторые гэткае выдатнае мейсцо занімаюць у сусьветнай вайне,—народ гэты блізка нічым не выяўляе свайго жыцьця. Нашы людзі гэтак ужо прывыклі жыць у няволі, як той вол—хадзіць пад ярмом! І нашаму беларусу ў галаву не йдзе думка, што мы можэм жыць неяк іначэй —самі сабой, без «апекуноў», што сто з лішкам гадоў мучылі народ, без «апекі» паноў, каторые высысалі ўсе сокі з «мужыка»—хлебароба. Мы прывучыліся слухаць чужой каманды: чына з гузікамі, пана вяльможнаго,—прывыклі цалаваць ім рукі і гнуць перад імі сьпіну да зямлі. І затым-то яны глядзяць на заўсёды «пакорнаго» беларуса, як на раба, і для людзей, каторые нават сваей роднай мовы стыдаюцца, маюць толькі пагарду.

Нехватае пачуцьця нацыональнай гордасьці ня толькі у цёмных беларускіх селян: яе німа і у нашай інтэлігенціі—у тых людзей, каторые стаяць на вышэйшых ступенях культуры. Гэта выяўляецца асабліва цяпер, калі палітычны момэнт стаўляе перад нашым грамадзянствам вельмі сурёзные пытаньня: пытаньне аб палітычнай ор'ентаціі, аб далейшай будучыне народу і Краю і т. д. Мы ўсё ешчэ шукаем нейкай чужой ор'ентаціі: то зьвязываем свой быт і сваю долю з маскалямі, то с Польшчай,—а тым часам у нас можэ і павінна быць толькі адна свая беларуская, краёвая ор'ентація, як у маскалёў—маскоўская, у палякоў—польская. Мы разумеем, у чым карысць нашай старонкі, нашаго народу, разумеем, што ўжо плясьціся ззаду за чужынцамі нам ня гожэ; а тым часам колькі нашых інтэлігентоў, перш, чым заявіць аб патрэбах Краю, агледаюцца: а што скажуць у Маскве, або ў Варшаве?..

Такое становішчэ ня толькі ня гожэ прэдстаўнікам дзевяцімільённаго народу, але і шкодно для ўсей беларускай справы, для будучыны нашаго Краю. У змаганьні за свой быт, за сваю долю выігрываюць толькі сільные і толькі тые с-паміж сільных, хто сваю сілу знае, пачувае яе ў сабе. Вось, нам і трэба ўрэшці зразумець, што ў беларускім народзі захована вялікая сіла, трэба кінуць нягодную народу палахлівасць і выкінуць з душы недавер'е да сябе. Толькі тады, як мы гэта зразумеем, як пачуем у сабе моц нашу,—толькі тады зменіцца прыніжэнае палажэньне народу, толькі тады мы здабудзем для сябе належнае нам у роднай зямліцы мейсцо.

Памятаймо толькі адно: сіла наша—ў нас самых.

*І. Мелешка.*

## З апошніх дзён расейскаго панаваньня.

(Успамін).

III.

Ешчэ тры дні — і скончыцца год, як мейсцо расейцоў у сталічным горадзі нашаго Краю занялі немцы.

Апошніе дні перад адступленьнем расейцоў — самые цікавые паводлуг настраеньня жыхароў Вільні. Усе, хто не хацеў аставацца, ўжо выехалі. «Расейская ор'ентація» мела вельмі мала прэдстаўнікоў: хіба ў тых, хто не пасьпеў, ці не здалеў выехаць у Расею. Усё, што было дагэтуль, утраціло для віленцоў уселякую цэну: вочы зверталіся на тое, што будзе заўтра — пасьля заўтра З Расеей спыніліся ўсе зносіны: почта ўжо даўно не хадзіла, а і тэлеграф быў перагружэн офіцыальнымі, ваеннымі тэлеграмамі, і прыватных або зусім не прынімалі, або прынімалі с тэй умовай, што пойдуць почтай.

Разам прыляцела вестка, што каля Сьвенцян немцы прарвалі расейскую лінію, чыгунка ўжо ў іх руках, ехаць на Пецярбург нельга! Незвычайна шыбка разыйшлася яна па горадзі. Гарачка запанавала між аставаўшыміся ешчэ ў горадзі нячысьленымі расейскімі чынамі: толькі паліція, толькі «ахрана» не кідалі сваей «работы».

Пусьцело место. Толькі ўсё болей і болей ваенных на вуліцах, — нейкіе счарнеўшые ад сонца ці ад дыму твары, абношэные, запыленые шэрые шынелі. Ідуць безладна, кучкамі; у вачах — поўная безнадзейнасць і сьмяротная задмога... Апаведалі, што, праходзячы цераз Зялёны мост, салдаты кідалі ў рэку патроны, кажучы: даволі гэтай праклятай вайны! Мо' і запраўды: такіе момэнты страшэннаго упадку ўселякай энэргіі становяць даволі характэрную рысу расейскаго народу.

Чым бліжэй быў дзень адступленьня расейцоў, тым цяжэй было ўсім аставаўшымся. І перш за ўсё — ад несумленнай, нягоднай спэкуляціі.

Шмат хто с таргоўцоў проста хаваў свае запасы: лічыў, што пазьней цэна на іх паднімецца.

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

## З ГРАМАДЗКАГО ЖЫЦЬЦЯ.

### Банкруцтво палітыкі Дмовскаго.

ШТОКГОЛЬМ. Як даведалося „Русск. Сл.“, неспадзеваная падарожа Штырмэра у глаўную царскую кватэру была звязана с пытаньнем аб польскай справе. Штырмэр павёз с сабой пратаколы нарад рады міністроў, пры каторых былі два праекты будучаго устройства Польшчы. Цар абодва праекты адкінуў.

### «Ахраннік» папаўся.

ПЕЦЯРБУРГ. Вялікі перапуд вызывае тут арэшт супрацоўніка «Нов. Врем.», Мануйлова, каторы іграў у часі Столыпіна выдатную роль, як тайны агент. Обыскі ў рэдакціях «Нов. Вр.» і «Веч. Вр.» далі многа цэнных матер'ялоў. Мануйлова арэштавалі за машэнствы пры падрадах.

### „Процi жыдоў і лібэралоў“.

ШТОКГОЛЬМ. „Рэч“ пішэ, што ў Маскве і Пецярбурзі паліція робіць аблавы на „жыдоў і лібэралоў“. У Маскве арэштованы больш 100 членоў лібэральнаго таварыства „гуртаўнікоў, як быццым-то за спэкуляцію.

### У Туркестане неспакойна.

КОПЭНГАГА (В.Т.Б.). Офіцыальная газэта туркестанскаго генэрал-губэрнатара друкуе гэткі прыказ Куропаткіна:

„Ваенны губэрнатар Фэрганскай обласьці, генэрал Гіппіус, павінен быў кіраваць падгатоўкай мобілізаціі мейсцовых жыхароў-магомэтан дзеля работ у тылах арміі. У сваей адозве да народу ён пазволіў сабе тлумачыць царскі указ у тым значэньні, што будуць браць толькі дабравольцоў. Дапускаючы, што гэткае тлумачэньне магло быць дадзено ў добрай веры, я здаволіваюся толькі адстаўкай генэрала Гіппіуса ад яго службы і не аддаю яго пад ваенны суд“.

Друкаваны ў Ташкенці „Туркестанскій Голос“ апісывае гэткіе здарэньня ў Ташкенці:

Пасьля таго, як царскі указ аб наборы магомэтан дзеля работ на тылах арміі быў апавешчэн, 24 ліпня на вуліцах Ташкенту сабралося каля 100 магомэтан, каторые напалі на паліцію, ранючы некалькі паліцэйскіх цяжка і некалькі—лёгка. Паліцмэйстэра забілі. Паліція арэштавала 25 магомэтан, каторых па загаду камандуючаго вайскамі туркестанскаго округа аддалі пад ваенны суд. Судзілі іх пры зачыненых дзьверах. Засуджэны: 5 душ—на сьмерць, 10—на 20 гадоў у катаргу, 5—на 3 гады ў вастрог; 11 душ апраўдалі, а рэшта засуджэна на лёгкіе кары. Куропаткін зацьвярдзіў двом сьмяротны прысуд, а тром кара сьмерці заменена на арыштанцкіе роты на 5 гадоў.

### Аграніченьне ўезду у сталіцу.

ШТОКГОЛЬМ. Расейскі дэпартамэнт паліціі дае пазваленьня прыежджаць у Пецярбург толькі у атказ на спэцыяльные просьбы ў паадзінокіх прыпадках. Аб тых, хто едзе ў Пецярбург, павінны данасіць губэрнатары іх губэрній у дэпартамэнт, і ад апошняго трэба ждаць пазваленьня. Асобам, каторые не жывуць пастаянна ў Пецярбурзі, пазваляецца аставацца тамака найбольш 4 тыдні.

### Незвычайны крок.

КОПЭНГАГА. Рада міністроў у Расеі, с прычыны страшэнных страт людзьмі часьцю ад пошасьцей, часьцю ў бітвах, пастанавіла паменшыць найніжэйшы век дзеля жаніцьбы з 20 на 18 гадоў.

### Даражыня.

БЭРЛІН. „Tageblatt“ пішэ, што, паводлуг „Рэчы“, устанаўленьне 4 дзён без мяса вызвало страшэнны узрост цэн на іншые спажыўные прадукты. Цэны узрасьлі на 20, 50, а нават і на 100 працэнтоў.

ПЕЦЯРБУРГ. „Торг.-Пром, Газ.“ пішэ:

З Владывастоку прывозіцца японскі воск, а перад вайной Одэсса мела яго з Гамбурга. Пуд воску каштуе цяпер 46-47 руб. Серка і серны квас—ад 18 да 21 руб. пуд. Серны і сольны квас зусім не прадаюцца.

### Пажар у порці.

ШТОКГОЛЬМ „Русск. Сл.“ апісываеаграмадны пажар у пецярбурскім порці, дзе выгружаюць тавары с тарговых параходоў. Увесь запас прыгатоўленаго для Пецярбурга жыта спаліўся. Пажар узняўся ў поўначы у электрычным элеваторы.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

### Прызыў усіх апалчэнцоў.

КОПЭНГАГА. „Правіт. Вестн.“ друкуе царскі прыказ аб наборы ўсіх апалчэнцоў 2-га раду і марскога апалчэньня. Загаданая мобілізація была назначэна сперша два месяцы таму назад і адкладывалася дзеля збору ураджаю.

### Прызнаньне неудачы.

ШТОКГОЛЬМ. Меньшыков у „Нов. Вр.“ намекае ў сваей стацьці, што наступленьне саюзьнікоў у 1916 гаду не ўдалося, і яго трэба адлажыць на другі год.

### Гутарка з Брусіловым.

ПАРЫЖ. «Темрs» друкуе гутарку з генэралам Брусіловым, каторы сказаў, што ён мае перад сабой больш чысьленую непрыяцельскую армію, чым у чэрвені месяцу. Для усходняго фронту даконча патрэбно, каб французы наступалі на заходзі.

### Нязгода.

ЦУРЫХ. „Бунд“ даносіць, што недаразуменьня між англіцкім цаслом у Пецярбурзі і Штырмэрам не спыняюцца.

### Нячыстая ігра.

ЖЭНЕВА. Тутэйшые газэты пішуць, што слабая пасьпешнасць Расеі памагчы Румыніі ў Добруджы тлумачыцца гэтак. Каб прымусіць Румынію ўмешацца ў вайну, Расея абяцалаcа ей лішне многа. Цяпер жэ, калі на Румынію прыйшла беда, Расея жадае, каб румыны зракліся таго, што ім суліла Расея, кажучы, што іначэй Румынія не дастане падмогі.

ПЕЦЯРБУРГ. „Нов. Врем.“ у стацьці „Буковіна і нашы нацыональные інтэрэсы“ пішэ:

„Калі Расея павінна уступіць Румыніі вызволеную расейскай крывёй Буковіну, дык гэта немагчымае жаданьне“.

Падобне-ж пішуць аб новым саюзьніку і іншые расейскіе газэты.

### Таёмны пасол.

КОЛОНІЯ. „Koln. Ztg.“ пішэ, што генэрал Іванов послан у Румынію з надта важнай справай. У тым жэ часі ў офіцыяльным органе ваеннаго міністэрства пішуць, што Расея павінна прыгатавацца да зімовай кампаніі, хаця жадае, каб яна скончылася да зімы.

### Опэрації чорнаморскаго флоту.

ЛОНДОН. „Morning Post“ даносіць:

Блізка ўвесь расейскі чорнаморскі флот сабраўся ў Констанцы дзеля супольных з румынскім флотам опэрацій процi боўгарскаго узьбярэжжа.

# З усяго сьвету.

### Сьмерць Мацоха

КАТОВІЦЫ. У Петракоўскім астрозі памёр засуджэны на вечную катаргу б. манах на Яснай Гарэ ў Чэнстахові, Дамазы Мацох.

# ТЕЛЕГРАМЫ.

## Крызіс у Грэціі.

АФІНЫ. Заіміс учора па-абедзі меў доўгую гутарку с каралём. Дамаганьня саюзьнікоў, бязспорна, будуць прыняты цэлком. Заіміс падаўся у адстаўку.

АФІНЫ. Група невядомых людзей стрэляла ў дом францускаго пасольства, дзе сабраліся на нараду паслы саюзьнікоў.

## Міжнародны работніцкі рух.

### Агульная забастоўка на чыгунках

НЬ'Ю-ІОРК. Да забастоўкі жалезнадарожнікоў у Нь'ю-Іорку прылучылося 200,000 душ.

НЬ'Ю-ІОРК. Забастоўка работнікоў гразіць абняць 800,000 членоў прафэсыональных саюзоў.

НЬ'Ю-ІОРК. Злучэные прафэсыональные саюзы на сходзі ўчора вечэрам прэдлажылі, каб усе 800.000 членоў саюзоў забасталі ў знак спогаду жалезнадарожнікам. Перад пастановай аб забастоўцы кожын саюз павінен сабраць у сябе галасы асобне.

### Забастоўкі у Англіі.

ЛОНДОН. Сход 3,000 жалезнадарожнікоў з усіх акругоў палудзеннаго Вальліса пастанавіў пачаць у поўнач на 17 верэсьня забастоўку, калі ня будзе споўнено іх жаданьне павышэньня тыднёвай платы на 10 шылінгоў, лічучы ўжо ад першаго ліпня, значыць, за прошлый час. Апрыч таго сход жадае, каб правіцельство дало заверэньне, што яно надалей установіць кантроль падвоза прадуктоў і будзе устанаўліваць цэны на іх.

ЛОНДОН. У млынох Лівэрпуля, адных з найвялікшых у Эўропі, пачалася забастоўка. Некалькі тысяч работнікоў кінулі работу дзеля пратэсту процi загаду, каб яны ня елі ўсе у адным часі.

### Рэзолюція работнікоў.

БІРМІНГАМ (В.Т.Б.). Конгрэс прафэсыональных саюзоў пастанавіў рэзолюцію, жадаючы, каб пасьля вайны былі скасаваны ўсе законы аб ваеннай і прамышленай службовай павіннасьці.

### Арэшты соцыалістоў.

РЫМ. Тут арэштавалі друкара Морару і Марінотті, сэкрэтара саюза „Соцыалістычная моладзь Італіі“. Яны прыгатаўлялі ў Італіі на 24 верэсьня дэмонстраціі. Наложэн арэшт на 50,000 эгзэмпляроў маніфэсту процi вайны, каторы меліся раздаваць салдатам на фронці. Абодвых арыштаваных аддалі пад ваенны суд.

### Закон аб ваенных інвалідах.

БЭРЛІН. Палудзенна-нямецкіе газэты даносяць аб падгатоўцы новаго закону аб ваенных інвалідах. Гэты закон загадывае фабрыкантам прынімаць ваенных інвалідоў на работу.

# Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

### З Вільні і Віленскай губэрні.

### Табор для ваенна-палонных Hammerstein.

Вэдэйка Язэп, Вільня.
Пробош Сірыуш „
Адамовіч Владзімір, Дзісна.
Баляйх Іван, Вільня.
Банько Констанцін, Селец Лідзк.
Дзічык Александар, Вільня.
Гайдукевіч Язэп „
Ісаков Владзімір „
Кейданік Арцем, Замошын, Вілейск.
Кузьмін Леонцій, Вільня
Кабачнік Гэнрых „
Матошка Язэп „
Шапанікоў Александар „
Сенкевіч Болеслаў „
Будзіловіч Базыль, Ліда.
Богуцкі Александар, Рукойны.
Брылеўскі Болеслаў, Вільня.
Грыневіч Констанцін, Засьценкі (Ошмяна)
Кондратовіч Іван, Вілейка.
Мальміга Іван, Дэмэйка (Ліда).
Мачкоўскі Мозэс, Ленкоўшчына.
Матышкевіч Антон, Пелюны (Ошм.)
Злюка Іван, Вілейка.
Мільлер Рышард, Цехановічы (Бельск).
Поль Хрыстофор, Вільня.
Алятка Эхон »
Абрамовіч Бэнцэль »
Абрамовіч Наум »
Абрамовіч Александар »
Абрамсон Хаім »
Бліц Абрам »
Богат Нісон »
Бакст Абрам »
Храбровіцкі Ізаак »
Ходош Абрам »
Давідсон Ноях, Ошмяна.
Экштэйн Мозэс, Ліда.
Эткоўскі Абрам, Кальварыя.
Эпштэйн Салёмон, Ошмяны.

# АБВЕСТКІ.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар В. Ластоўскі.